# Голас Радзімы

№ 11 (1945)
13 сакавіка 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Штогод 8 Сакавіка мы ад душы віншуем усіх нашых жанчын—маці, жонак, нявест, бабуль, дачок, унучак. У Міжнародны жаночы дзень усе яны імянінніцы. Ім дораць кветкі, падарункі. Гэта даніна павагі нашым цудоўным жанчынам, без якіх сёння нельга ўявіць ні адзін бок жыцця краіны. Урачы, настаўнікі, рабочыя, інжынеры, дырэктары заводаў, лётчыцы і нават капітаны дальняга плавання... Якія толькі прафесіі ні асвоілі савецкія жанчыны! Больш аднаго мільёна жанчын выбраны народнымі дэпутатамі ў органы ўлады.

Пра адну з іх, рабочую вытворчага аб'яднання «Івацэвічдрэў», дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Наталлю ПАЛЯЧОК, якую вы бачыце на здымку, мы расказваем на 3-й стар.

Фота С. КРЫЦКАГА.

## ФРАНТАВАЯ МЕДСЯСТРА ЎСПАМІНАЕ ВАЙНУ

# СТО ПЯЦЬДЗЕСЯТ ЯЕ БРАТОЎ

**Маленькая, зграбная, светлавокая і светлавалосая, яна здаецца кволай і вельмі слабай. «Верабейка», — нечакана вырываецца ў мяне адзіна магчымае параўнанне. І Соф'я Кунцэвіч усміхаецца: «Угадалі, менавіта так і называлі мяне на фронце...»**

У сорак першым ёй не было яшчэ і 17. А з выгляду дык увогуле дзяўчынка-школьніца. У ваенкамаце, куды яна прыйшла прасіцца на фронт, яе і слухаць не захацелі. Да знямогі стомлены капітан каротка кінуў на хаду: «Дзяцей у армію не бяром. Вяртайся да маці!»

Колькі разоў за доўгія чатыры гады вайны чула гэтыя словы Соня. Спачатку яе не хацелі браць у армію, потым — пасылаць на перадавую, выпісваць са шпіталя... Але ў дзяўчынкі быў цвёрды характар. А яшчэ — непахісная вера ў сваю прававу, у тое, што яна патрэбна менавіта там, на фронце. І ніхто не мог перашкодзіць ёй: спасылаліся на маладосць — прыпісала сабе ў пашпарце яшчэ два гады; не хацелі браць у бой — ішла без дазволу; не адпускалі на фронт пасля ранення — уцякала са шпіталя ўпотай...

Ці страшна было ёй?

— Вельмі страшна, — прызнаецца Кунцэвіч. — Я так і не навучылася хаця б знешне не паказваць сваёй боязі ад свісту куль. Мне ўвесь час здавалася: вось гэтая дакладна ў мяне ляціць... А бамбёжкі, артылерыйскія абстрэлы — гэта ж пекла! Калі ў першы бой трапіла, думала — звар'яцею. Я не магла адарвацца ад зямлі, мне хацелася закапацца ў яе, схавацца. Сама не ведаю, як пачула стогны раненага. Толькі ён, той слабы голас, усё вырашыў: я змагла пераадолець страх, дапаўзла, перавязала салдата і вынесла яго.

Лёгка сказаць: «вынесла». А як, калі вакол разрываюцца снарады? Калі салдат бездапаможны, як дзіця? Калі сама такая маленькая? У ёй жа тады і 48 кілаграмаў не было.

— Я рабіла гэта па-рознаму. Калі на плашчпалатцы цягнула. А часцей — прама на сабе, паўзком. Невыносна цяжка было. Я і зараз не магу растлумачыць, адкуль браліся сілы... Адзін, другі, трэці... Я ніколі не лічыла, колькі ў якім баі вынесла. Не да таго было. І імёнаў не ведаю. А вось твары — хочаце верце, хочаце не — помню ўсе да аднаго. Яны мне па начах і сёння сняцца.

Яна сапраўды памятае. Якая рана была на плячы ў лейтэнанта, як бязлітасна знявечыў асколак маладога прыгажуна-старшыну, як нечакана зрабілася цяжкім, прыціснула яе да зямлі цела камандзіра батальёна, якога яна не паспела данесці да ўкрыцця...

— Гэты камандзір быў апошнім. Пасля яго смерці не было каму ўзначаліць парадзелы батальён, на той безыменнай вышыні ў жывых засталася толькі невялікая група салдат, — успамінае Кунцэвіч жнівень 1942 года і Закаўказскі фронт, куды трапіла яна пасля другога ранення. — Баі за вышыню ішлі жорсткія. Ніколі яшчэ не бачыла я такога. Нават кароткага адпачынку не было. Хлопцы адбівалі атаку за атакай, у жывых іх заставалася ўсё менш і менш. Не магу сказаць, колькі дзён цягнуліся гэтыя баі. Усе яны для мяне зліліся ў адзін доўгі, спякотны, страшны дзень. Я аглухла ад грукату, асляпла ад агню. Гімнасцёрка стала чорная — ад крыві маладых, моцных, прыгожых хлопцаў, якіх я спрабавала ратаваць.

Калі загінуў камандзір батальёна, і Соня зразумела, што новага могуць прыслаць вельмі позна, яна разгубілася. Але толькі на момант: фашысты зноў кінуліся ў атаку. І тады 18-гадовы лейтэнант медыцынскай службы схапіла аўтамат і паднялася над траншэяй.

— Уперад, за Радзіму!

Далей яна нічога не памятае: яе цяжка кантузіла.

У ерэванскім шпіталі, куды трапіла Соня, ёй потым сказалі, што вышыню яны адстаялі і што тымі жнівеньскімі днямі асабіста яна, Кунцэвіч, выратавала каля 150 раненых, гэта былі байцы Асобнай Чарнаморскай групы, у асноўным грузіны, азербайджанцы, армяне. І калі жанчыны Ерэвана даведаліся пра подзвіг беларускай дзяўчыны, яны цэлай дэпутацыяй прыйшлі да яе ў шпітальную палату.

— Ты так многа зрабіла для ўсіх нас, — сказалі ёй салдацкія маці. — Ведай, цяпер у цябе ёсць 150 братоў.

І яшчэ яны сказалі:

— Ты стамілася, і цела, і душа твае змучаны. Застанься ў нашым горадзе, дочка. Урад нашай рэспублікі прызначае табе стыпендыю для вучобы ў медыцынскім інстытуце. Пасля вайны ты будзеш урачом.

— Буду, — згадзілася Соня. — Але сапраўды толькі пасля вайны. А пакуль... Не трэба мяне ўгаворваць, я ўсё роўна вярнуся на фронт.

На гэты раз дабіцца адпраўкі на фронт было складаней. Прыкаваная да пасцелі, Соня некалькі месяцаў адчайна змагалася за жыццё. А калі першы раз з цяжкасцю паднялася, выпадкова пачула жорсткі прыгавор дактароў: «Бедная дзяўчынка, жыць год сем, не больш».

— Няпраўда! — закрычала яна. — Вось убачыце: я і ваяваць яшчэ буду, і жыць вельмі-вельмі доўга!

Так і выйшла. У 1944 годзе Соня Кунцэвіч была сярод тых, хто вызваляў Украіну і Польшчу. Вясной 1945 ішла на штурм Берліна. Тут, ля сцен рэйхстага, зразумеўшы, што перамога блізкая, марыла пра вяртанне ў родную Беларусь. Успамінала сваю вёску, бацькоў, васьмярых сясцёр і братоў, што чакаюць яе.

Да Перамогі сапраўды заставалася ўсяго некалькі дзён. Але Соні не суджана было сустракаць яе з роднымі і сябрамі. 5 мая 1945 года яна зноў была паранена. І вельмі цяжка.



Бол[illegible] года прабыла ў шпіталях. Зноў выслухала прыгавор дактароў, і быў ён смяротным для яе жаночай долі: ні ў якім разе нельга мець дзяцей.

Сорак год прайшло з таго часу. Соф'я Кунцэвіч жыве ў Мінску. Урачом, як марыла, яна стаць не змагла, для гэтай прафесіі ўжо не хапі[illegible]ізічных сіл. І таму скончыла другі інстыт[illegible]рацуе бібліятэкарам.

А вось наконт дзяцей спецыялісты памыліліся. Бо не ведалі яны характару сваёй пацыенткі. Кунцэвіч нарадзіла дачку. Ледзь не памерла пры родах, але стала маці. А цяпер ужо і бабуляй.

Маленькі Дзіма — яму сем год — вельмі ганарыцца сваёй бабуляй і больш за ўсё любіць, калі яна надзявае ўзнагароды: два ордэны — Чырвонай Зоркі і Чырвонага Сцяга, дзесяць медалёў. Ужо праз дваццаць год пасля Перамогі да іх дадаўся яшчэ адзін — залаты медаль Флорэнс Найцінгейл — вышэйшая ўзнагарода Міжнароднага Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.

Як і ўсе сучасныя дзеці, Дзіма вельмі многае ведае і аб усім мае ўласнае меркаванне.

— А што такое вайна? — спытала я ў малога.

— Гэта вельмі дрэннае слова, — падумаўшы, адказаў ён. — Бабуля, калі чуе яго, заўсёды пачынае плакаць.

— Мне сапраўды цяжка ўспамінаць маладосць, — гаворыць Соф'я Кунцэвіч. — Пасля кожнага расказа пра вайну я тыдзень-два бываю хворай. Ведаеце, тады, у сорак пятым, нам здавалася: ніхто і ніколі не адважыцца больш нават вымавіць гэтае слова — «вайна». Нам думалася: вось цяпер увесь свет будзе жыць у міры. Але ёсць вар'яты, якія забыліся пра ўсё, здраджваюць сваім дзецям, не разумеюць, што ядзерная катастрофа адыме ў іх будучыню... Таму, пакуль у мяне ёсць хоць кропля здароўя, я не буду ні маўчаць, ні сядзець склаўшы рукі.

Соф'я Кунцэвіч часта сустракаецца з моладдзю. І не толькі ў Мінску, ездзіць і ў іншыя гарады краіны. Яна ўдзельнічае ў антываенных мітынгах і маршах міру. Вядзе вялікую перапіску з самымі рознымі людзьмі.

Пісем вельмі многа. Але самыя дарагія, вядома ж, ад «братоў». Іх яна перачытвае зноў і зноў: «Ці помню я вас? Так, кожны дзень я дзякую вам за тое, што жывы...», «да сёння не разумею, як магла ты, верабейка, вынесці з таго бою на Украіне амаль ці не сто хлопцаў...», «Вы дзівосная, чалавек з легенды...»

Соф'я Кунцэвіч перабірае гэтыя чуллівыя пісьмы, паказвае мне фотакарткі, на якіх яна, зусім дзяўчынка, у лейтэнанцкай форме... А я гляджу на яе вельмі маленькія, тонкія рукі і думаю пра тое, колькі ж на самай справе ў іх сілы. А яшчэ аб тым, што не выпадкова ў маі 1945 года напісала яна на сцяне рэйхстага менавіта гэтыя словы: «Дачка каваля, я забіла вайну...»

**Наталля БУЛДЫК.**

**НА ЗДЫМКУ: ветэран вайны Соф'я КУНЦЭВІЧ.**

# БЕЗ УСЯЛЯКІХ ЦУДАЎ

Наталлі Палячок, рабочай вытворчага аб'яднання «Івацэвічдрэў», усяго дваццаць пяць год. Але гэтую маладую сімпатычную жанчыну сёння вельмі добра ведаюць і паважаюць усе дарослыя жыхары горада. Крыху больш чым год назад яны даверылі ёй прадстаўляць свае інтарэсы ў вышэйшым органе ўлады рэспублікі, выбраўшы дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

У тым, што рабочая стала членам урада, вядома, няма нічога дзіўнага. Законы аб выбарах у нашай краіне забяспечваюць у органах улады справядлівае прадстаўніцтва ўсіх сацыяльных слаёў насельніцтва. Аднак далёка не кожнаму аказваюць такі высокі гонар у такім маладым узросце.

З гэтага і пачалася наша размова з Наталляй Палячок.

— Тут няма ніякіх цудаў. Справа ж не толькі ўва мне. Наша грамадская сістэма, Савецкая ўлада вельмі высока ўзнялі рабочага чалавека. Многія з маіх таварышаў па рабоце маглі б з поўным правам аказацца на маім месцы.

— Значыць, вам проста пашанцавала! Вам заўсёды так шанцуе ў жыцці?

— Ну, што вы. Вядома, не,— успрыняла жарт Наталля Міхайлаўна.— Бываюць і ў мяне засмучэнні і непрыемнасці. Але гэта не галоўнае. А ў галоўным мне шанцуе.

— [illegible]о ж для вас галоўнае?

— Мая работа, мой камбінат. Адсюль і ўсё астатняе — матэрыяльная забяспечанасць, становішча ў грамадстве, павага людзей.

Падобныя словы мне ўжо не ра[illegible]водзілася чуць ад рабоч[illegible]розных прадпрыемстваў. І гэта глыбока абгрунтавана. Менавіта ў калектыве, у працы, грамадскай дзейнасці раскрываюцца творчыя сілы і здольнасці чалавека. Наталлю Палячок з поўным правам можна назваць прадаўжальніцай рабочай дынастыі. На Івацэвіцкім дрэваапрацоўчым камбінаце да самага выхаду на пенсію добрасумленна працавала яе маці Марыя Яўменаўна, тут жа працуюць брат і сястра.

Наталля Палячок нарадзілася і расла ў Івацэвічах. Пасля сканчэння школы спрабавала паступіць у інстытут, але не дабрала балаў. Тады маці і прапанавала: «Ідзі, дачушка, да нас на камбінат. Паглядзіш. Не спадабаецца, ніхто прымушаць не стане. Можаш працаваць, дзе хочаш».

Наташа засталася. І, як бачым, знайшла сваё месца ў жыцці. Ад многіх на камбінаце я чуў толькі дабрыя словы пра Наталлю Палячок. Яе тут любяць і цэняць як работніка і як таварыша, як добрага і чулага чалавека.

— Быць сярод людзей, памагаць ім, не заставацца абыякавай да іх бедаў — для яе гэта не абавязак, а патрэба,— сказала пра Наталлю Палячок майстар Наталля Рагаўская.— У яе вельмі развіта пачуццё адказнасці. Наташа не толькі добра робіць сваю справу сама, але і заўсёды гатова прыйсці на дапамогу таварышам. Без адрыву ад вытворчасці яна працягвала вучыцца. Скончыла мінскі завочны політэхнікум.

Званне дэпутата дае вялікія правы, але адначасова і накладвае вялікую адказнасць. Наталля Палячок ужо двойчы ўдзельнічала ў рабоце сесій Вярхоўнага Савета БССР.

— Калі прыязджаю на сесію, звedваю зусім асаблівае пачуццё,— прызналася Наталля Міхайлаўна.— Нібы ахопліваеш позіркам усю нашу Беларусь. І гэта не толькі ад таго, што сустракаешся з прадстаўнікамі ўсіх абласцей і раёнаў. А і таму, што рашэнні, якія мы там прымаем, самым непасрэдным чынам уплываюць на жыццё рэспублікі, кожнага яе жыхара.

Абавязкі дэпутата заключаюцца не толькі ва ўдзеле ў сесіях. Гэта і штодзённая работа з людзьмі. Неабходна апраўдваць высокі давер выбаршчыкаў, выконваць іх наказы. Якіх толькі пытанняў ні прыходзіцца вырашаць Наталлі Міхайлаўне. Напрыклад, няма добрай дзіцячай пляцоўкі ў новым мікрараёне горада, навасёлы некаторых дамоў скардзяцца на тое, што будаўнікі спазняюцца з падключэннем газу. І дэпутат абавязаны дапамагчы. Прыходзяць людзі са сваімі асабістымі патрэбамі, звяртаюцца і кіраўнікі прадпрыемстваў па складаных вытворчых справах. Кожнага трэба выслухаць, разабрацца. Гэта будні дзяржаўнага чалавека.

Акрамя работы і вялікіх грамадскіх спраў, ёсць яшчэ і сямейныя клопаты. Бо кім бы ні была жанчына, яна яшчэ і маці, і гаспадыня дома. На ёй перш за ўсё ляжаць абавязкі па выхаванню дзяцей.

Сыну Наталлі Палячок Андрэю цяпер тры гады. Пакуль ён не разумее, што мама перадавік вытворчасці, дзяржаўны дзеяч. Яму патрэбна проста мама, самая добрая, самая пяшчотная. Мама ўмее рабіць столькі цудаў: і схадзіць з сынам у кіно, і пачытаць з ім кнігу, і прыгатаваць самы смачны абед.

— Іншы раз сапраўды было б нядрэнна ўмець зрабіць цуд, але трэба паспяваць усё рабіць і без яго. Мы ж жанчыны,— смяецца Наталля Міхайлаўна.— Вядома, самой управіцца ўсюды было б немагчыма. Але цяпер наша дзяржава здымае з плеч жанчын значную частку праблем. Мы жывём у новай, добраўпарадкаванай кватэры, якую я атрымала ад камбіната. Там жа памаглі з месцам у дзіцячым садзе для Андрэя. Нядаўна пабудавалі новы цудоўны садзік «Сонейка». І цяпер, ідучы на работу ці па дэпутацкіх справах, я спакойная за сына. Ведаю, што яго добра дагледзяць, ён заўсёды будзе накормлены. Там іх вучаць многім рэчам, якім немагчыма навучыць дзяцей у хатніх умовах. Увогуле ў нас на камбінаце робіцца многае для паляпшэння ўмоў працы і быту ўсіх працуючых, а жанчын у першую чаргу. Усе, хто мае патрэбу ў лячэнні, забяспечваюцца пуцёўкамі ў санаторыі адпаведнага профілю. Астатнія могуць правесці водпуск у дамах адпачынку, пансіянатах, у турыстычных паездках. Але асноўная ўвага ўдзяляецца, вядома, паляпшэнню ўмоў працы і адпачынку непасрэдна на вытворчасці. У нас добрая сталовая, буфеты. Зараз пачалі перараблць бытавыя памяшканні, будаваць у цэхах пакоі псіхалагічнай разгрузкі.

Перад ад'ездам з Івацэвічаў я яшчэ раз сустрэўся з Наталляй Палячок, каб павіншаваць яе са знамянальнай падзеяй у жыцці. Таварышы па камбінату прынялі яе ў кандыдаты ў члены Камуністычнай партыі.

Жыццё працягваецца. Наталлі Палячок толькі дваццаць пяць.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

АТРЫМАЎШЫ ПРАВЫ І МАГЧЫМАСЦІ, ЗДЗЕЙСНІЛІ СЯБЕ ЯК АСОБЫ

# ЛЁС МАІХ ГЕРАІНЬ

Размову нашу мне хацелася пачаць здалёк — па месцу і па часу. Некалькі гадоў назад, у час турыстычнага падарожжа па Грэцыі, я зайшла ў рускую царкву. Быў цудоўны, нечакана веснавы — у снежні! — дзень у Афінах. Падарожжа наша завяршалася, настрой быў прыўзняты. Я хадзіла па гораду адна. Душа была «насычана» легендарнымі руінамі, міфалогіяй, і пацягнула раптам да жывых, сённяшніх людзей. А яшчэ падумалася: мо і мне там хто-небудзь абрадуецца...

У маленькім кафэ «Святы Мікола», што непадалёку ад царквы, адбылася нечаканая сустрэча і размова з жанчынамі-актывісткамі царкоўнага савета і мясцовага рускага таварыства. Там і здарыўся той нязначны ўвогуле, але чамусьці не забыты мною і па сённяшні дзень эпізод... з якога я і хацела пачаць гэты артыкул.

Але жыццё змяніла намер. Атрымала ад жаночага часопіса, у якім працую, тэрміновае заданне: узяць інтэрв'ю ў жанчыны, якая заўтра ад'язджала ў Маскву, на XXVII з'езд КПСС. Пазваніла, дамовілася і пад вечар, адклаўшы ўсе іншыя справы, паехала на вуліцу Філімонава, дзе жыве гэтая жанчына, знайшла кватэру, націснула кнопку званка. За дзвярамі была цішыня. Чакаю. Звяраюся з запісам: адрас правільны. Прыслухалася і пачула ціхія, нетаропкія крокі. Дзверы расчыніліся, і на парозе гарадской кватэры з'явілася старэнькая вясковая жанчына з прыветным мацярынскім тварам...

— Праходзьце, праходзьце. Валі няма, але яна хутка прыедзе, затрымалася, відаць, на рабоце. Я — мама, так, так... Марыя Архіпаўна маё імя. Мо замерзлі?.. Мо шклянку чаю? Сядайце вось тут, калі ласка, і я прысяду побач, але...

Села. Склала рукі на цёмнай шарсцяной спадніцы. Потым зноў узнялася з канапы: «Мо ўсё ж чаю? Я хуценька!» Усміхаючыся ёй, пераконваю не турбавацца, але адчуваю, як ёй хочацца што-небудзь прыемнае зрабіць чалавеку, якога яна бачыць першы раз у сваім жыцці. І становіцца мне так цёпла, так утульна ў гэтай незнаёмай кватэры, адышлі некуды ўсе дзелавыя і сямейныя клопаты. Здалося раптам, што перада мною з'явілася адна з маіх уласных вясковых бабуль, якіх я нават ужо і не памятаю. Здалося мне, што сядзіць побач са мною жывое ўвасабленне ўсіх нашых вясковых беларускіх маці, гэтых ціхіх, руплівых працаўніц, залатому сэрцу якіх прысвяцілі лепшыя свае радкі самыя шчырыя нашы паэты. Як у Пімена Панчанкі:

**А вочы жаночыя свецяць**
**Усюды так мудра і добра,**
**Усе сялянкі на свеце**
**На маці маю падобны...**

Такія вочы, мудрыя і добрыя, свяціліся ў гэты момант мне. Я ўбачыла іх зноў, калі праз некалькі хвілін у пакой увайшла другая жанчына, тая, да якой я ішла сюды. Яна была ўвасабленнем свайго часу, свайго лёсу. Высокая, модна і з густам апранутая, стрымана-гордая, незалежная, з гаворкаю і манерамі інтэлігентнага, адукаванага чалавека. Я ведала, што іду да работніцы, брыгадзіра маляроў Мінскага завода халадзільнікаў Валянціны Лепяшко. Да работніцы выдатнай, ушанаванай сваім калектывам, грамадствам. Яна — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі, і вось цяпер ёй выпаў гонар быць дэлегатам вялікага партыйнага форуму краіны. Але ў той момант усё неяк не мела значэння: перада мною былі дзве жанчыны — дачка і маці. І ўсё. І так захацелася мне, каб чытачы майго будучага артыкула апынуліся вось тут, на вуліцы Філімонава. Нам не спатрэбілася б многа слоў. Мы пераводзілі б толькі позіркі з адной на другую.

Маці і дачка. Дзве жанчыны з вёскі Мокіш Хойніцкага раёна, з глыбіні беларускага Палесся. Дзве жанчыны з сям'і Жэбітаў, з сям'і, якіх мільёны на нашай зямлі. І дзве жыццёвыя аповесці. У адной: ноч, лес, балота... Жанчына з чатырма маленькімі дзецьмі хаваецца ад карнікаў. Дваіх дзяцей недалічылася... Вось яна атрымлівае пахавальную на старэйшага сына. Потым сустракае з фронта мужа, вядомага на ўсю ваколіцу майстра-цесляра, і вось ужо навечна развітваецца з ім. Паранены на вайне, ён надоўга радаваўся жонцы і дзецям. Адна падымала малых у той паўгалодны пасляваенны час. Вучы[illegible] іх няхітрай сваёй сялянскай наву[illegible] вучыла быць працавітымі, сумленнымі, спагадлівымі да людзей.

Усё гэта я чытаю, бачу і чую і ў першай аповесці, і ў другой. У адным лёсе і ў другім... Бачу сярод дзяцей Марыі Архіпаўны і маленькую Валю. Дзяўчынка-п[illegible]ьніца на пасляваенных палетках [illegible]ыруе, стараецца дапамагчы маці. Вось яна атрымала ўжо атэстат сталасці і пайшла ў самастойнае жыццё. У горадзе паступіла ў будаўнічае вучылішча, стала маляром-тынкоўшчыкам. З матчынай навукаю — быць працавітаю і сумленнаю — прайшла яна па ўсіх дарогах працоўнага, грамадскага і асабістага жыцця і ідзе па іх сёння. Славяцца ў нашай краіне і за мяжой выдатнай якасцю мінскія халадзільнікі. Іх ахвотна купляюць і ў Англіі, і ў Францыі, і ў многіх іншых краінах. Ёсць у гэтых халадзільніках доля сумленнай, беззакорнай працы Валянціны Лепяшко і яе брыгады. І за гэта ёй — гонар і слава. І ва ўсім, чаго дасягнула Валянціна, вялікая заслуга і маці, простай сялянкі.

Лёс беларускай жанчыны. Лёс многіх і многіх маіх гераінь...

«Мой герой». «Мая гераіня». Так журналісты паміж сабою называюць людзей, пра якіх пішуць ці збіраюцца пісаць. Зразумела, што гэта рабочая назва, прафесіянальны тэрмін. Бо «герой» ці «гераіня» могуць быць і самымі звычайнымі людзьмі.



Але на маю долю выпала шчасце ў ліку сваіх «гераінь» мець многіх славутых жанчын нашай рэспублікі. Сапраўдных гераінь, якія сталі легендаю роднага краю, такіх як А[illegible]дна Казей... Разам з ёю, 16-га[illegible]ю дзяўчынай, я мерзла ў зімовым, блакадным лесе... І маё сэрца сціскалася ад болю, калі пад сасною звычайнай пілой партызанскі доктар без наркозу ампутаваў ёй абедзьве нагі. І першы крок у шпіталі на пратэзах зрабілі мы з ёю разам і разам наб[illegible]ся моцы, каб пайсці ў жыццё да[illegible], набыць прафесію настаўніцы, вырасціць уласных дзяцей і сёння гадаваць унукаў... І такіх, як Аляксандра Федасюк, славутая заходнебеларуская падпольшчыца. Здаецца, гэта я была з ёю поруч, калі з начнога неба падаў на чорны лес, у невядомасць, парашут, калі са спакойнага тылу вярталася яна на сваю Слонімшчыну, каб у цяжкі час быць побач з землякамі, узяць у рукі зброю, пакінуўшы на чужыя рукі маленькую дачку Уладзю. Я сядзела побач з імі гадзінамі, слухала іх, не вымаючы блакнота, і запаміняла кожную дробязь з іх расказаў, бо ніколі не пераставала задаваць сабе пытанне, што такое мужнасць чалавека наогул, што ёсць жаночая мужнасць.

Я ганаруся асабістым, няхай нават часовым, як гэта нярэдка здараецца ў нас, работнікаў друку, знаёмствам з такімі беларускімі жанчынамі, як член-карэспандэнт Акадэміі навук УАСХНІЛ Тамара Кулакоўская, акадэмік Любоў Хатылёва, прафесар Нінель Бабкова. Свае права на роўнасць жанчыны з мужчынам яны, як, дарэчы, і многія іншыя (40 працэнтаў навуковых работнікаў рэспублікі складаюць жанчыны), выкарысталі бліскуча. Тамара Кулакоўская стварыла глебавую карту ўсіх земляў рэспублікі, якая адразу ж стала падручнікам для аграномаў, зрабіла разлікі для электронна-вылічальнай сістэмы на прагнозы ўрадлівасці нашых палёў да 2000 года. Любоў Хатылёва, адна з нямногіх генетыкаў свету, здолела пранікнуць у таямніцу таямніц, у загадку гетэрозісу, у спадчынную лінію многіх патрэбных чалавеку, патрэбных народнай гаспадарцы раслін. Нінель Бабкова стварае новыя сілікатныя матэрыялы. Яна навуковы кіраўнік маладых вучоных і выкладчыкаў тэхналагічнага інстытута... З імі і з многімі іншымі жанчынамі — з генеральнымі дырэктарамі вялікіх прадпрыемстваў, канструктарамі станкоў і машын, урачамі, настаўнікамі, аграномамі, апаратарамі электронна-вылічальных сістэм і апаратарамі машыннага даення кароў, са старшынямі калгасаў і дырэктарамі саўгасаў — я сустракалася і на іхніх рабочых месцах, у службовых кабінетах, лабараторыях, і ў іх дома. І зноў захаплялася і задавала сабе пытанне: адкуль, з якіх крыніц гэтае дзівоснае спалучэнне рысаў новага жаночага характару? Усе яны абаяльныя, прыгожыя жанчыны, пяшчотныя маці, цудоўныя гаспадыні. Думаю: ад нашых маці, ад простых, працавітых жанчын горада і вёскі ўзялі яны свой талент, умельства, дабрыню. І здзейснілі сябе як асобы, атрымаўшы на гэта права і магчымасць.

...— Дзе вы працуеце?— спыталіся ў мяне актывісткі рускага таварыства ў Афінах.

— У беларускім часопісе для жанчын...

— Як называецца ваш часопіс?

— «Работніца і сялянка».

У кафэ «Святы Мікола», што паблізу рускай царквы, дзе адбывалася наша гутарка, імгненна наступіла цішыня. Твары жанчын выцягнуліся, зніклі ветлівыя ўсмешкі. Маіх субяседніц, дачок, ці мо нават ужо і ўнучак рускіх памешчыкаў і памешчыц, эміграваўшых некалі з поўдня Расіі, насцярожыла, напалохала назва майго часопіса. Што пачулася ім? Мо водгук рэвалюцыі? Той рэвалюцыі, якая здзейсніла найвялікшую ў гісторыі чалавецтва сацыяльную справядлівасць, даўшы жанчыне, у тым ліку і работніцы, і сялянцы, яе дачцэ і ўнучцы, сённяшні дзень, сённяшні лёс.

**Алена УЛАДЗІМІРАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Валянціна ЛЕПЯШКО.**

*НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*

# ЯНТАРНЫЙ КРАЙ

**О городе Калининграде можно рассказывать как о крупном морском порте, промышленном и научном центре обновленного края. Можно посвятить свой рассказ историческим памятникам, таким, как могила великого немецкого мыслителя Иммануила Канта, местам массового героизма советских солдат в годы минувшей войны... Но, пожалуй, неизгладимое впечатление оставит единственный в своем роде, уникальный музей янтаря.**

В центре города, на берегу Верхнего озера, приковывают внимание грозным видом крепостные стены и башни с бойницами, старинные мортиры и витые кружева металлических решеток. Это впечатляет. Но все же главное здесь — «солнечный камень», который бережно хранится за этими стенами.

Тишина... Приземистые кирпичные своды, винтообразные лестницы, узкие переходы больше напоминают театральную декорацию сказочного замка. Пугливыми птахами порхает эхо шагов и растворяется в мощных стенах. Поначалу не оставляет чувство приближения какого-то волшебства, и ожидание не обманывает вас. Вдоль стен, в глубоких нишах и посредине залов, размещена экспозиция.

— Первых посетителей наш музей принял в 1979 году, — рассказывает мой гид, старший научный сотрудник Татьяна Суворова, выпускница исторического факультета Белгосуниверситета имени Ленина. — С той поры десятки тысяч туристов нашей страны и из-за рубежа познакомились с экспонатами. Создание музея в Калининграде не было случайностью, ведь на территории нашей области, на побережье Балтики, сосредоточено свыше 94 процентов разведанных мировых запасов янтаря.

Янтарь—одно из удивительных явлений природы. Он очаровывает человека неповторимым цветовым многообразием, пробуждает фантазию. О нем сложено немало прекрасных легенд. И не случайно. В истории культуры человечества янтарь занимает заметное место. Изделия и украшения из него популярны с древнейших времен. Он всегда вдохновлял художников и поэтов.

— Наш музей, — продолжает Татьяна Суворова, — знакомит посетителей с историей янтаря с древнейших времен и до наших дней. Экспозиция позволяет лучше узнать и понять природную красоту «смолы веков». Все экспонаты расположены в 28 залах общей площадью более тысячи квадратных метров. Каждый из разделов музея — своеобразный экскурс в глубь веков, проникновение в таинства природы, познание чуда.

Как объясняет современная наука, янтарь образовался 50 миллионов лет назад из смолы хвойных деревьев. В почве «янтарного» леса, а затем в морских песчано-глинистых отложениях смола под воздействием сложных физико-химических факторов превратилась в янтарь. Яркое впечатление оставляет раздел музея «Происхождение янтаря». Здесь представлены куски, разнообразные по форме и цвету, а также образцы с остатками растений и насекомых — истинных посланников далеких веков.

Не оставляют равнодушными посетителей произведения мастеров XVII—XVIII веков, копии работ старых ювелиров. Янтарные шахматы, шкатулки, камеи, подсвечники, фрагменты знаменитой «янтарной комнаты». Авторами воссозданных произведений являются художники из Ленинграда А. Журавлев, В. и Г. Ерцевы, А. Крылов, А. Колчин и другие.

Значительное место в музее отведено экспозиции, повествующей о продукции Калининградского янтарного комбината, его развитии, а также отечественной школе янтарного ювелирного искусства. Ларец «Дружба народов», макет атомохода «В. И. Ленин», ваза «Изобилие» и целый ряд других экспонатов приковывают внимание посетителей.

— В книге гостей нашего музея много восторженных отзывов, — говорит моя собеседница, ученый секретарь музея Раиса Стефанкова. — Однако главная задача нашего коллектива — превратить музей в научно-методический центр о янтаре. Начало этой работе положено. Например, все разделы экспозиции как бы систематизируют знания о янтаре и обобщают опыт обработки «солнечного камня». Сотрудниками музея постоянно пополняется коллекция, собираются письменные источники и литература, создается научный архив. В этом нам помогают историки и археологи многих республик нашей страны. Есть определенные контакты и с учеными Белоруссии. Например, к нам поступили материалы результатов многих раскопок древних курганов республики, где встречались украшения из янтаря. Таким образом, прослеживается история отношений народов древности...

Ценны экспонаты музея янтаря. Но особую значимость им придает большая хлопотная работа сотрудников этой необычной кунсткамеры. И о благодарности за это говорят многочисленные отзывы побывавших здесь людей.

**Николай ИНИН.**

